*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак* БАГУШЭВІЧ





# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 9 (169) ◈ 2 сакавіка 1994 г. ◈ Кошт — 20 рублёў.




## ПОСТУП ТЫДНЯ

***ПРАДСТАЎНІКІ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПАРТЫЙ БЕЛАРУСІ, ГЕРМАНІІ, ЛАТВІІ, ЛІТВЫ, РАСІІ, ШВЕЦЫІ І ЭСТОНІІ, САБРАЎШЫСЯ У МЕНСКУ, ПРЫНЯЛІ ЗАЯВУ** аб парушэннях правоў чалавека ў Беларусі, у якой адзначаецца, што дзяржаўныя радыё і тэлебачанне, а таксама асноўныя газеты Беларусі знаходзяцца пад жорсткім кантролем урада. Таму ў дэмакратычных партый, грамадскіх арганізацый і незалежных прафсаюзаў няма іншага спосабу пратэставаць супраць палітыкі ўрада і Вярхоўнага Савета, як праз палітычныя мітынгі, дэманстрацыі і страйкі. Пасля ж мітынгаў улады пачалі пераследаваць іх арганізатараў і ўдзельнікаў. Сацыял-дэмакраты Беларусі, Германіі, Латвіі, Літвы, Расіі, Швецыі і Эстоніі ў сваёй заяве выказалі занепакоенасць наступам уладаў Беларусі на правы чалавека, абмежаваннем свабоды слова, друку, мірных сходаў і дэманстрацый.*

**У БРЭСЦЕ І ГРОДНЕ ПЛАНУЕЦЦА АДКРЫЦЦЕ КОНСУЛЬСТВАЎ РЭСПУБЛІКІ ПОЛЬШЧА.**

***24 ЛЮТАГА ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ РАТЫФІКАВАЎ ПАГАДНЕННЕ** аб узаемнай абароне інвестыцый паміж Беларуссю і Германіяй.*

**САВЕТ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ АДОБРЫЎ І ПАСТАНАВІЎ** прадставіць у Вярхоўны Савет краіны на ратыфікацыю Пагадненне паміж урадам Беларусі і ўрадам Расійскай Федэрацыі аб уваходжанні Беларускага дзяржаўнага прадпрыемства па транспарціроўцы і пастаўцы газу «Белтрансгаз» у склад расійскага акцыянернага таварыства «Газпрам». А што на чарзе?

***НАШУ КРАІНУ НАВЕДАЎ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР ЛАТВІЙСКАЙ РЭСПУБЛІКІ ВАЛДЫС БІРКАЎС.** Адбыліся перамовы, падпісаны дакументы. Падчас сустрэчы з журналістамі прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч паведаміў, што ёсць дамоўленасць аб выкарыстанні Беларуссю латвійскіх портаў на Балтыйскім моры, у тым ліку нафтавых тэрміналаў, на выпадак, калі Беларусь захоча купіць нафту на Захадзе. І сапраўды, на зямлі ж не адна Расія, дзе ёсць нафта.*

«Поручение конгресса Народного движения Белоруссии об освобождении от должности одного из участников «беловежского сговора» выполнено!» — заявіў старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па барацьбе з карупцыяй А. Лукашэнка, выступаючы ў Віцебску.

***У КУЛУАРАХ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА** карэспандэнт «Звязды» ўзяў інтэрв'ю ў старшыні Нацыянальнага банка Станіслава Багданкевіча, які на пытанне: «Калі ўсё ж абдудзецца аб'яднанне грашовых сістэм?» — адказаў: «Гэта пытанне вы павінны задаць расійскаму боку. Беларускі бок ужо ўзгадніў пратакол № 4, і мы думалі, што гэта ўжо канчатковы тэкст, аднак расіяне, іх вярхоўная ўлада дасюль не выпрацавалі сваёй канчатковай пазіцыі. Расійскім экспертам не дадзена ўстаноўкі ісці на пагадненне з намі. Калі наша місія ездзіць на перамовы ў Маскву... цяжка сказаць, наколькі гэта дастойныя перагаворы».*

ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА! Да канца падпіскі на «Наша слова» засталося крыху больш за тыдзень. Паспяшайцеся! Газета ў кіёсках прадаецца і будзе прадавацца ў вельмі абмежаванай колькасці. Кошт падпіскі на квартал — 450 рублёў. Індэкс 63865.

## Новыя фарысеі на Заходнім Палессі

Стар. 2–3

МЕРКАВАННІ

## «Зліцця народаў» я не хачу

Калі ўважліва прыглядзецца да нашага жыцця, то можна прыйсці да высновы, што мы жывём у незвычайны час. Магчыма, што якраз з гэтага часу пачынаецца новы этап у гісторыі чалавецтва. Так думаецца, калі глядзіш на палітычную карту Еўропы, дзе за апошнія гады ўзнікла больш за дзесятак новых незалежных дзяржаў. Сярод іх — і наша Беларусь.

Нельга не заўважыць таксама, што са знікненнем СССР знікла і тая напружанасць, якая панавала пасля Другой сусветнай вайны паміж гэтай супердзяржавай ў кампаніі з яе сатэлітамі з так званага сацыялістычнага лагера, з аднаго боку, і капіталістычным светам, з другога. Інакш кажучы, скончылася сусветнае супрацьстаянне, якое лагічна магло завяршыцца трэцяй сусветнай вайной.

На жаль, як заўсёды бывае, распад гігантскай імперыі выклікаў шмат адмоўнага на былых яе абшарах. Да пагаршэння эканамічнай сітуацыі паўсюдна далучаецца тое, што цяпер людзям даводзіцца жыць у сітуацыі, якая хутка змяняецца, у адрозненне ад той уяўнай стабільнасці, якая панавала ў СССР. З-за ўсяго гэтага шмат хто цяпер са шкадаваннем успамінае пра ранейшае жыццё. Часцей за ўсё чуюцца размовы аб колішніх танных прадуктах, хоць ні словам не згадваецца былы жахлівы стан нацыянальнай культуры, рэлігіі, забываецца ўчарашняя немагчымасць набыць «ас-цярожнага» вальнадумства. Іншымі словамі, параўноўваецца тое, як людзі жылі раней з тым, як жывуць цяпер.

Але звычайна чамусьці ўсе забываюць параўнаць наш ранейшы ўзровень жыцця з тым, які ўжо даўно дасягнуты у іншых краінах. Сёння кажуць таксама, што раней усе маглі без праблем паехаць у адпачынак у любы пункт Савецкага Саюза. Праўда, маўчаць, што было амаль немагчыма з'ездзіць куды-небудзь за мяжу. Забываюць, што раней таксама хапала праблем.

Затое колькі нематэрыяльных набыткаў мы маем за апошнія гады! Да нас прыйшлі шмат якія творы сусветнага і айчыннага мастацтва, якіх мы раней не маглі ўбачыць. Адраджаецца беларуская мова, культура, вяртаюцца імёны многіх забытых нацыянальных герояў. Ці ж гэта не добра? А самае галоўнае тое, што мы цяпер — суверэнная і незалежная дзяржава.

Шмат хто з прадстаўнікоў новага пакалення разумее гэта. Я задаў некаторым маім аднакласнікам пытанні: «Ці баіцеся вы будучыні?», «Ці хацелі б вяртання назад у СССР?» Вось два адказы.

Андрэй ГАРАМСКІ: «Я не баюся будучыні, бо, як любы веруючы чалавек, спадзяюся на Бога і веру, што Ён дапаможа. Тым больш, што будучыню я сабе ўжо вызначыў: пасля школы паступлю ў семінарыю, стану святаром. Назад у СССР? Не! Там непадзельна правіла баль камуністычная партыя і ўсяляк прыніжалася рэлігія».

Аляксандр ПАЛАЦЕНКА: «За сваю будучыню я не баюся. Чалавеку ўласціва прымервацца да сітуацыі. І я думаю, што калі траплю ў крытычнае становішча, то з дапамогаю свайго розуму я з яго выйду. Я спадзяюся стаць бізнесменам. Назад у СССР не хачу».

Я таксама не сумую па мінуламу. Каўбасы, можа, тады было і больш, не спрачаюся. Але цяглыя коні таксама не маюць нястачы ў харчы. А простыя людзі якраз і былі гэтымі коньмі. І «зліцця народаў» я не хачу! Жыць пад пагрозай атамнай вайны не хачу! Што да будучыні, то я веру, што Беларусь стане ў поўным сэнсе незалежнай еўрапейскай краінай, і таму — не баюся!

Сяргей ПЕТРЫКЕВІЧ,
вучань 9 класа СШ № 188
г. Менска.

*У газетах*

## Радзіма і матчына мова — ад Бога

Менская гарадская газета «Добры вечар» (№ 23, 3 лютага г. г.) апублікавала падрабязную гутарку свайго карэспандэнта Галіны Калевіч са святаром Грэка-каталіцкай царквы, айцом Казімірам Ляховічам. Святар, у прыватнасці, падкрэсліў, што Апостальская грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква нарадзілася пасля падпісання ў 1596 годзе на Берасцейскім саборы уніі паміж праваслаўнай і каталіцкай цэрквамі. Мэта стварэння царквы — выратаваць беларусаў як асобны этнас ад апалячвання, чаму паграджаў рост уплыву каталіцкага касцёла, і, з другога боку, засцерагчы наш народ ад татальнай русіфікацыі, якую несла на Беларусь праваслаўе. І хоць беларускім уніятам іх шматлікія храмы дагэтуль не вернуты, а адзіная уніяцкая парафія ў Менску збіраецца на беларускамоўныя набажэнствы ў цесным памяшканні жылога дома па вул. Прытыцкага, абсталяваным пад капліцу, айцец Казімір аптымістычна глядзіць у будучыню. Ён упэўнены, што «Радзіма, як і маці, даецца чалавеку Богам... Трэба шанаваць і паважаць... матчыну мову. Заняпад роднай мовы не ўпрыгожвае беларусаў».

## Ці народзіцца «Журналіст»?

Як паведаміў у наступным нумары «Добры вечар», у Менску нядаўна адбыўся семінар рэдактараў рэспубліканскіх і мясцовых выданняў, сакратароў пярвічных арганізацый Саюза журналістаў Беларусі. Былі абмеркаваны сучасны стан нашай журналістыкі і перспектывы яе развіцця. Сярод іншага прагучала прапанова стварыць на базе газеты, якую выдае факультэт журналістыкі БДУ, спецыялізаванае перыядычнае выданне для журналістаў.

## Як пазнаць патрыётаў?

Газета «Пагоня» (рэгіянальны агляд: Гародня — Вільня — Беласток) у першым сёлетнім нумары (13 студзеня) змясціла артыкул Алеся Астроўскага «Дабрабыт бярэ пачатак з патрыятызму». Аўтар прыходзіць да высновы, што «ўсім людзям добрай волі трэба зразумець уласны інтарэс і падтрымліваць прадстаўнікоў БНФ, іншых дэмакратычных партый, сябры якіх... змагаюцца за нацыянальнае адраджэнне. Пазнаць гэтых людзей няцяжка. Большасць іх карыстаецца роднай мовай».

## «Свабода» выходзіць будзе

Так лічыць галоўны рэдактар менскай газеты «Свабода» (№ 4, 7 лютага г. г) Ігар Гермянчук. У артыкуле, прысвечаным аналізу палітычнай сітуацыі на Беларусі пасля адстаўкі С. Шушкевіча, ён піша: «Можа здарыцца так, што нашу газету зачыняць. Альбо забароняць друкаваць «Свабоду» тут, на Беларусі (першыя сімптомы ўжо ёсць). У такім выпадку могуць быць затрымкі з выхадам нумароў, бо друкавацца давядзецца за мяжою, як гэта было ў 1990 г. Але выходзіць «Свабода» будзе. Нягледзячы ні на што!»

## Дзяржаўны гімн: чытацкія прапановы

Газета «Літаратура і мастацтва» (№ 5, 4 лютага г. г.), дарэчы, не ў першы ўжо раз, змясціла падборку допісаў чытачоў, дзе аўтары выказваюць свае меркаванні наконт таго, які твор павінен стаць новым гімнам Рэспублікі Беларусь. Думкі, як і раней, разбегліся. Так магілёўчане І. Нікалаева і Л. Дземідзенка лічаць, што на ролю Дзяржаўнага гімна найбольш падыходзіць «Жыве Беларусь» (музыка В. Раінчыка, словы Л. Пранчака), а М. Луфераў (Магілёў) аддае перавагу твору «Магутны Божа» (музыка Міколы Равенскага, словы Наталлі Арсенневай).

І ўсё ж, відаць, найбольшай увагі заслугоўвае пазіцыя Рады Латвійскага Таварыства беларускай культуры «Світанак», якая адназначна выказалася за тое, каб новым гімнам Рэспублікі Беларусь стаў сусветна вядомы ля-мінорны паланез М. К. Агінскага, бо якраз «у ім велізарнейшы запал энергіі, закадзіраваны ў ноты». Да слова, такую ж думку неадройчы выказвалі ў друку многія дзеячы нашай культуры, вядомыя навукоўцы і патрыятычныя грамадскія арганізацыі. А Беларускае згуртаванне вайскоўцаў ужо карысталася гэтым творам у якасці гімна ў час публічнага прыняцця сябрамі згуртавання сімвалічнай вайсковай прысягі на вернасць Бацькаўшчыне, якая адбылася 8 верасня 1992 года на сталічным пляцы Незалежнасці.

## Уратуем духоўнасць!

Зварот пад такой назвай да настаўнікаў, выхавацеляў, усіх педагогаў нядаўна прыняў прэзідыум Педагагічнага таварыства Рэспублікі Беларусь («Настаўніцкая газета», № 10, 5 лютага г. г.). У звароце, у прыватнасці, гаворыцца, што «амаральныя ўчынкі, цынізм значнай часткі нашай моладзі грунтуюцца менавіта на бяздушнасці і адсутнасці духоўнасці... У мінулым годзе кожнае сёмае злачынства ўчынена непаўналетнімі». Таксама падкрэслена, што для кожнага настаўніка, педагога і навукоўца сёння адкрываецца шырокае поле дзейнасці ў выхаванні сапраўднай духоўнасці, якая абапіраецца б на жыццё і творчасць Францішка Скарыны, Ефрасінні Полацкай, Янкі Купалы, Якуба Коласа — носьбітаў высокай духоўнасці і маралі.

М. В.

АЛЕ!

# «Сейчас я упаду»

Не сказаць, што ў нас, на Беларусі, усё не так, як у людзей, але што не ўсё, як у людзей,— гэта сапраўды так.

Напрыклад, паспрабуй набыць у нас свой, беларускі сувенір — не разгонішся. Прапануюць табе «матрёшку да ложку», а калі лянок — дык і той, як не свой.

Давялося выбіраць «нешта беларускае», каб павезці ў Германію. Перабраў тузін вышываных абрусаў — то персідскія загагуліны, то ўкраінскія кветы. Узяў набор прыгожых аршанскіх ручнікоў (сем штук, на кожны дзень), а на іх назвы дзён па-руску вытканы, малюнкі «міжнародныя», а па краёчку — наогул па-англійску.

Купіў, нарэшце, насовачку, там бычок намаляваны, разгледзеў, што напісана, і жахнуўся. Не ад таго, што Барысаўская фабрыка грэбуе роднай мовай, у якой, быццам, жартоўных радкоў няма. Канечне, гэта заганна, але ж калі ўжо штампаваць па-руску, то хаця б зазірнулі ў кніжку, як правільна пішацца. А то — мяркуйце самі:

Идёт бычок, качается,
Вздыхает на ходу,
Ой, досточка кончается,
Сейчас я упаду!

Ды за гэтую «досточку», размножаную тысячамі экземпляраў, любы рускі чалавек можа выставіць іск барысаўчанам у мільён «зайцаў» за знявагу сваёй дзяржаўнай мовы!

Не ўзяў я гэтую насовачку з сабой — раптам немцы лепш рускую мову ведаюць, чым «абруселыя» барысаўчане. І сваім дзецям не паказаў, каб тая «досточка» ім у памяць не ўелася— і без гэтага трасянка заела.

А ў Германію павёз-такі насовачку з цікавым малюнкам і надпісам: «Прыйшоў зяць, трэба ўзяць» — таксама, здаецца, барысаўскай вытворчасці. Толькі атрымалася, што паеду на Нямеччыну, сапраўды, нібы той зяць, бо нечага больш было на напамінак аб суверэннай Радзіме з сабой адвезці.

**А. БУБАЛА.**

г. Верхнядзвінск.

ДЗЕ ШТО?

# ЛЕКЦЫІ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

**Пры аддзеле адукацыі Салігорскага райвыканкама па ініцыятыве мясцовай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны (старшыня сп. Марыя Мацюкевіч) з сакавіка г.г. пачне працаваць школа нацыянальнага адраджэння. Яе слухачамі будуць настаўнікі беларускай мовы, літаратуры і гісторыі.**

**У праграме школы — лекцыі па літаратурным краязнаўстве і этнаграфіі Беларусі. Заняткі будуць праводзіць М. Мацюкевіч і старшы навуковы супрацоўнік мясцовага краязнаўчага музея Ларыса Бойка. Праграма разлічана на восем чатырохгадзінных заняткаў.**

**Для слухачоў будуць таксама наладжаны сустрэчы з пісьменнікамі, супрацоўнікамі музея, экскурсіі па літаратурных мясцінах, іншыя мерапрыемствы, прадугледжаныя праграмай.**

**В. ВЕЙНЯНСКІ.**

ФІЛАЛОГІЯ

***Нядаўна споўнілася 70 год заслужанаму дзеячу навукі, доктару філалагічных навук, прафесару Віктару Уладзіміравічу Мартынаву. Пачынаючы з 60-х гадоў, ён працуе ў Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі, а апошнія тры гады яшчэ і на кафедры агульнага мовазнаўства ў Менскім лінгвістычным універсітэце. Прафесар Мартынаў унёс значны ўклад у развіццё параўнальна-гістарычнага і параўнальна-тыпалагічнага мовазнаўства, распрацаваў пакуль што адзіную ў свеце канцэпцыю штучнага інтэлекту. Аб праблемах прыкладного мовазнаўства, а таксама пра перспектывы навукова-даследчага цэнтра «Семантыка» і пойдзе гутарка з нашым карэспандэнтам.***

# *Прафесар МАРТЫНАЎ:*

# Канцэпцыя трохмоўнай калыскі не вытрымлівае крытыкі

**— Віктар Уладзіміравіч, нам вядома, што апошнім часам Вы ўзначалілі работу навукова-даследчага цэнтра «Семантыка», які займаецца распрацоўкай тэорыі штучнага інтэлекту. У чым сутнасць гэтай тэорыі?**

— З дапамогай тэорыі штучнага інтэлекту можна навучыць камп'ютэр вырашаць тыя задачы, якія нядаўна мог вырашыць толькі чалавек. Камп'ютэр можа працаваць толькі з формуламі. Таму мы распрацавалі семантычны слоўнік (семантыка — агульная тэорыя значэння слоў), у якім кожны семантычны элемент мае сваё фармальнае прадстаўленне, гэта значыць, формулу. У нас кожнае асноўнае слова мае сваю асаблівую формулу, а семантычна другасныя словы адрасуюцца да формул асноўных слоў. Зрабіць гэта было даволі складана, паколькі наша чалавечая мова з'яўляецца семантычна дыфузнай, і ў ёй цяжка адрозніць адзін семантычны элемент ад другога. Дакладных крытэрыяў, як гэта зрабіць, не было. Таму мы прыйшлі да высновы, што трэба зрабіць кананізаваную мову.

**— Што яна сабой уяўляе?**

— Гэта звычайная чалавечая мова, але з пэўнымі абмежаваннямі, якія даюць магчымасць адрозніваць семантыку па сінтаксічных прыкметах. Напрыклад, у такой мове творны склон можа абазначаць толькі інструмент і нічога іншага. Таму нельга сказаць: "Я іду лесам", а толькі "Я іду праз лес". Парадак слоў таксама абавязковы. Такая кананізаваная мова якраз дае магчымасць зрабіць дакладны адпаведнік сінтаксісу і семантыкі і такім чынам забяспечыць працу камп'ютэра.

**— Ці ёсць аналагі такой работы за мяжой?**

— Няма. У Беларусі гэта зроблена ўпершыню. Цяпер публікуюцца навуковыя працы на гэтую тэму. Ужо выйшла пяць манаграфій і каля ста артыкулаў.

**— Хто, акрамя Вас, працуе над рэалізацыяй гэтай тэорыі?**

— У лінгвістычным універсітэце склаўся калектыў з дзесяці чалавек. Прыкладна палова з іх — лінгвісты, а астатнія інжынеры і матэматыкі, якія працуюць непасрэдна з камп'ютэрнай тэхнікай.

**— На Вашы даследаванні і распрацоўкі патрэбны немалыя грошы. Ці ёсць складанасці з фінансаваннем?**

— Як гаворыцца, мы заўсёды ў пошуку. У пошуку грошай. Фінансуе нас Рэспубліканскі фонд інфарматызацыі. Напачатку фінансаванне было добрае. Цяпер перажываем пэўныя цяжкасці.

**— Як да Вашай тэорыі ставяцца замежныя навукоўцы?**

— З цікавасцю. Мы наладжваем прамыя кантакты з вучонымі, а таксама навучальнымі ўстановамі Еўропы і Амерыкі.

**— А цяпер, Віктар Уладзіміравіч, пытанне, якое я хацела Вам даўно задаць: з Вашых выступленняў у друку ведаю пра Вашу асабістую канцэпцыю паходжання беларускай мовы.**

— На маю думку, старая вядомая канцэпцыя калыскі трох моў не вытрымлівае ніякай крытыкі. Гэта была больш палітычная канцэпцыя, чым навуковая, і нам усім добра вядома, чаму яна была папулярная. Але калі звярнуцца да фактаў, то мы атрымліваем зусім іншую карціну. Папершае, так званая старажытнаруская мова — гэта не прамова трох усходнеславянскіх моў, а проста старраславянская літаратурная мова ва ўсходнеславянскім варыянце. Што да дыялектаў, то яны былі амаль такія ж, як у XIX—XX стагоддзях. Але мы не маем непасрэдных крыніц, з якіх можна было б даведацца пра ўсходнеславянскія дыялекты прыкладна IX—X стагоддзяў. Калі зазірнуць у больш старажытныя часы, то мы сутыкаемся з праблемай славянскай прарадзімы ў басейне Віслы і Одры. Адтуль пачаліся міграцыі славян. Міграцыя на Усход пачалася раней, чым на Поўдзень. Першая міграцыя праходзіла ўздоўж Прыпяці да Дняпра, далей на Поўнач і на Поўдзень. Тая частка славян, якая пайшла на Поўдзень, з'явілася носьбітам украінскага дыялекту, на Поўнач — беларускага. Рускай тэрыторыі яшчэ не было ўвогуле. Яна склалася пазней. Але вядома таксама, што ўсе гэтыя тэрыторыі не былі пустэчай, там размяшчаліся розныя этнасы. Напрыклад, тэрыторыя сённяшняй Беларусі была заселена ўсходнімі балтамі, а на тэрыторыі Украіны жылі іранцы (скіфы). Таму беларуская і ўкраінская мовы больш блізкія паміж сабой, паколькі яны нібы выйшлі з аднаго патоку. Хоць субстраты былі розныя. Што да рускай мовы, я маю на ўвазе таксама не літаратурную мову, а дыялект, то перасяленне адбылося прыкладна ў IV стагоддзі, прайшло праз тую ж тэрыторыю, але далей на поўнач ад Ноўгарада да Ладагі. Такім чынам, было не тры, а два арэалы: беларуска-ўкраінскі і рускі. Ёсць шмат фактаў у карысць гэтага. Дыялект, на якім пабудавана сённяшняя новая беларуская мова, узнік вельмі рана, не ў XIV стагоддзі, а дзесьці на пачатку нашай эры. Што да старажытнай беларускай мовы, то яна была пабудавана не на дыялектнай аснове, а непасрэдна звязана з кніжнымі ўплывамі і таму нельга сказаць, што гэта адна і тая ж мова. Новая беларуская мова пабудавана на найбольш старажытным народным дыялекце.

**— Вы рэдактар Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы. Якая яго адметная рыса?**

— Праца над Слоўнікам пачалася ў сярэдзіне 60-х гадоў. Першы том выйшаў у 1971 годзе. Цяпер выдадзена ўсяго 8 тамоў. Калі б мы і надалей кожны год выдавалі па тому, то праз 5—6 гадоў закончылі б гэтую працу. Але цяпер з'явіліся цяжкасці з друкам. На маю думку, Этымалагічны слоўнік мае дзве адметныя рысы: максімальны склад лексікі і лінгва-геаграфічны прынцып, гэта значыць, кожны факт, калі гэта магчыма, трэба прывязаць да канкрэтнай тэрыторыі або канкрэтнага раёна. Што да лексікі, то ў Слоўніку яна прадстаўлена вельмі падрабязна.

**— Вашы планы на перспектыву?**

— У першую чаргу зрабіць інтэлектуальную сістэму, якая б працавала самастойна, аўтаномна, з вырашэннем розных задач, якая была б пабудавана на тэорыі штучнага інтэлекту. Плануем зрабіць гэтую сістэму трохмоўнай: беларуска-руска-англьскай. Шмат давядзецца папрацаваць таксама і над іншымі праблемамі ў галіне беларускага мовазнаўства.

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# на Заходнім Палессі

сваёй групкай, яшчэ менш значнай, чым М. Шаляговіча?! Ці мо пан Казлоўскі хоча кагосьці пераканаць, што і «Голос Берестийщини» ён выдае за кошт сваёй пенсіі? Мо яговая групка ў 30—40 чалавек, якіх ён змог сабраць на Заходнім Палессі (у Пінску іх двое, і тыя не маюць згоды між сабою), аплачвае гэтае дарагое выданне за межамі дзяржавы, дзе не жыве пан Казлоўскі і збівае з панталыку людзей?..

Чытаючы пісаніну ў гэтай газетцы, міжвольна ўзнікаюць пытанні: навошта гэта? Да чаго можа давесці падобная блытаніна? Пачатак дзейнасці М. Шаляговіча з'явіўся крокам у адраджэнні заходнепалескай самабытнай культуры, дыялекту мовы, традыцый. Тады трэба было яму дапамагчы. Не захацелі, вось і падабралі яго ворагі беларускасці.

Газета «Пінскі веснік» пад Новы год небеспадстаўна сцвярджала, што М. Шаляговіч у Пінску валодае так званым «дырэктараскім корпусам» і мае намер выставіць сябе кандыдатам на пасаду мэра горада. Так што смяяцца не варта, шаноўныя, каб не здарылася тут сапраўды нейкага беларускага варыянту Прыднястроўя.

Пан Казлоўскі робіць высновы з розных гістарычных даведак, звяртаючы асаблівую ўвагу на тое, нібы заходнія палешукі — «кориннэ украйнськэ насэлынне». Але калі нават, магчыма, так і было некалі, то прайшлі стагоддзі. Мы даўно зліліся ў адзіны беларускі народ.

Перада мной мінскае выданне «Русь Белая, Русь Черная, или Литва в картах» — аўтар Я. Шыраеў. Калі М. Казлоўскі выбірае тое, што лепш падыходзіць для ягоных амбіцый з гэтага выдання карт, то ў дадзенай кніжцы ёсць і звесткі, якія сведчаць не на карысць прыналежнасці заходніх палешукоў да Украіны.

Пан Казлоўскі начыста адмаўляе, як і прафесар Ю. Хадыка, «яцьвяжскія» карані палешукоў. Але ж як тады быць са сведчаннем гістарычных крыніц? Асабіста тычыцца гэта пана Казлоўскага, які катэгарычна сцвярджае, што на Берасцейшчыне жылі і жывуць не палешукі, а карэнныя ўкраінцы. Перапіс на Заходнім Палессі (дзесятая рэвізія 1857—1860 гг.) канстатаваў: у Кобрынскім павеце запісана «яцьвягаў» 22725 чалавек, а русінаў (украінцаў) — 17371 чалавек, бужанаў 539 чалавек, тады як у Пінскім павеце беларусаў — 85520, літоўцаў — 5309, палякаў 5317 чалавек. Як бачым, на Піншчыне не было ніводнага ўкраінца!

Няўжо расійскія праваслаўныя святары (а рэвізію праводзілі менавіта яны) больш сімпатызавалі не сваім праваслаўным вернікам, а каталікам ды ліцвінам?

Як сведчаць навукоўцы (П. Шпілеўскі і інш.), «в Брестском, Волковысском, Бельском и других уездах Западного Полесья ятвяги составляют между собой отдельные племена, язык которых напоминает чем-то язык литовский, чем-то — язык белорусский, чем-то — польский, чем-то — украинский». Вядомы акадэмік А. І. Ваейкаў, які наведаў Палессе ў канцы XIX ст., пісаў, што вёскі ў гэтым краі, куды належала і Украіна, былі самымі багатымі ў Расіі. Палешукі не ведалі голаду, які перыядычна спустошваў Расійскую імперыю, пракочваўся па краіне і ў савецкі час. Няма тут і слова, што мы, палешукі, належым да ўкраінцаў.

Альбо яшчэ сведчанне: «Исторически также известно, что до прихода Варяга-Тура, все прибрежье Припяти, от теперешнего города Мозыря до г. Пинска, населяло уже племя ятвягов, и что главными притонами, или селищами ятвягов, были те места, где Мозырь, Петриков, Давид-Городок, Туров и Пинск» (Воспоминания о древнем православии Западной Руси).

Дык чаго ж дабіваецца пан Казлоўскі і кампанія? Мы прымаем украінскае грамадскае таварыства на Беларусі нароўні з польскім, літоўскім, татарскім. Але ў яго, як і ў М. Шаляговіча, іншая мэта — камуністычная, імперская.

**К. УДАВІДЧЫК,**
**ветэран вайны і працы.**

Пінскі раён.

# Яўген МІРАНОВІЧ: «Спадзяёмся толькі на свае сілы...»



***Яшчэ ў тыя часы, калі ў колішняй БССР пра беларусаў па-за межамі рэспублікі ці не пісалася зусім, ці пісалася выключна адмоўна («калабаранты», «здраднікі», «паліцаі»), чалавек, які цікавіцца беларускімі справамі, мог даведацца пра жыццё замежных суайчыннікаў толькі з аднаго выдання — газеты польскіх беларусаў «Ніва», што выдаецца ў Беластоку. Многія яшчэ памятаюць, што гэту газету можна было набыць у менскіх газетных кіёсках. Праўда, потым «Ніва» знікла з продажу.***

***Сёння нават далёкія ад беларускасці людзі ведаюць, што нашы суайчыннікі ў Польшчы маюць свой друкаваны орган. Расказвае галоўны рэдактар газеты Яўген Мірановіч.***

**— «Ніва» існуе амаль трыццаць сем гадоў. Як вядома, спярша яна выходзіла пад эгідай Беларускага Грамадска-культурнага таварыства. Але з 1992 года «Ніва» — газета Праграмнай рады... Чаму так атрымалася?**

— Наколькі я ведаю, БГКТ ніколі не было выдаўцом «Нівы». Ды і само БГКТ тады існавала ў структуры Міністэрства ўнутраных спраў. З «Нівай» яго юрыдычна яднала толькі тое, што яны былі на той час уласнасцю Польскай аб'яднанай рабочай партыі (ПАРП) (зрэшты, як ўся Польшча). Пасля вядомых падзей у Польшчы грошы на газету стала выдаваць Міністэрства культуры і мастацтва. Першы «салідарніцкі» ўрад Мазавецкага вельмі сур'ёзна паставіўся да спраў нацыянальных меншасцей — беларусы атрымалі тады 4 мільярды злотых (420 тысяч долараў па тым курсе). Грошы, аднак, ішлі праз рахунак БГКТ. Але пачалі ўзнікаць іншыя беларускія арганізацыі — БАС (Беларускае аб'яднанне студэнтаў), Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, Рада беларускіх арганізацый, Асацыяцыя беларускіх журналістаў... Лідэры БГКТ не хацелі разумець новых рэалій жыцця. Яны па-ранейшаму адчувалі сябе манапалістамі ў беларускім руху. Са знікненнем цэнзуры ў «Ніве» пачалі рэгулярна з'яўляцца крытычныя матэрыялы з аналізам дзейнасці таварыства. Натуральна, што яны прыйшліся шмат каму не даспадобы. Таму кіраўніцтва БГКТ катэгарычна запатрабавала ў тагачаснага галоўнага рэдактара газеты Віталя Лубы звольніць некаторых найбольш непаслухмяных журналістаў. Луба — чалавек сумленны і прынцыповы. Ён не пажадаў крыўдзіць калег і вырашыў, што лепш сам пакіне пасаду. Кандыдатуру новага галоўнага рэдактара, прапанаваную БГКТ, рэдакцыйны калектыў катэгарычна адхіліў. «Ніва» атрымала падтрымку практычна ўсіх беларускіх арганізацый Польшчы. Тады БГКТ папросту забрала ў нас рэдакцыйнае абсталяванне (камп'ютэры, сканер), якое было куплена на грошы ўрада Мазавецкага. Тады для кіраўніцтва газетай Міністэрства культуры і мастацтва прапанавала стварыць Праграмную раду. У раду ўвайшлі Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне (БДА), Беларускае аб'яднанне студэнтаў, Звяз беларускай моладзі, літаратурная суполка «Белавежа»...

**— Наколькі я ведаю, рэдакцыю часта наведваюць афіцыйныя дэлегацыі з Беларусі. Тут былі міністр інфармацыі А. Бутэвіч, пасол Беларусі ў Польшчы Ул. Сянько, беларускі консул у Беластоку І. Хадасевіч... Можна меркаваць, што гэтыя асобы прапануюць суайчыннікам дапамогу на дзяржаўным узроўні, тым больш, наколькі я ведаю, Варшава чынна дапамагае ў выданні ў Гродне газеты Саюза палякаў Беларусі.**

— Нядаўна мы спрабавалі наладзіць друкаванне на старонках «Нівы» праграм Беларускага тэлебачання. Беларускія праграмы прымаюцца ў Беластоку, і такая інфармацыя была б карыснай нашаму чытачу. Але на нашу просьбу дасылаць загадзя падрыхтаваную праграму БТ міністр Бутэвіч сказаў, што ў Менску для гэтага няма тэхнічных магчымасцей — факса. Я падумаў: «Калі нам не могуць дапамагчы хоць гэтым, то, напэўна, не змогуць і іншым...»

**— Ці былі якія-небудзь захады з боку беларускіх улад зрабіць так, каб «Ніва» распаўсюджвалася і на Беларусі?**

— Раней газета сапраўды распаўсюджвалася па ўсёй Беларусі, бо было пагадненне з вашым «Саюздрукам». Цяпер, ва ўмовах рынку, гэта задорага. Каб апраўдаць выдаткі, нашу газету трэба прадаваць у Беларусі па 25 цэнтаў — каля 1200 рублёў. Натуральна, што гэта цалкам бесперспектыўна...

**— Але вернемся да Беласточчыны. На маю прыватную думку, «Ніва» перш за ўсё — газета тыпова рэгіянальная...**

— Так, безумоўна. Беларусы кампактна жывуць па ўсім Беластоцкім краі. Таму мы мусім пісаць пра іх штодзённыя праблемы — і пра рэнты, і пра кепскія дарогі, і пра сельскагаспадарчыя справы... Але ж «Ніву» чытаюць і па-за межамі нашага краю: у Амерыцы, у Аўстраліі, у Канадзе. І мы час ад часу падаём матэрыялы з Беларусі па праблемах эканомікі, культуры, мастацтва... Апроч таго, у Беластоку існуе літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», творы сяброў якога таксама друкуюцца на старонках нашага выдання. Я як галоўны рэдактар акрэсліў бы кола «Нівы» наступным чынам: па-першае, штодзённыя праблемы, па-другое, пытанні культуры, эканомікі (у тым ліку — і Рэспублікі Беларусь), па-трэцяе, школьніцтва: у газеце ёсць школьная старонка «Зорка», разлічаная на дзятву і на нешматлікіх выкладчыкаў беларускай мовы.

**— Напэўна, газету трэба разглядаць у агульным кантэксце сітуацыі беларуса ў Польшчы. Якая ж гэта сітуацыя?**

— Яшчэ ў сямідзесятых гадах існавала няпісанае правіла, паводле якога польскі друк зусім не падаваў інфармацыі пра польскіх беларусаў. Памятаю, напачатку васьмідзесятых гадоў у адной з газет з'явіўся артыкул Сакрата Яновіча «Хто яны, беларусы?», які выклікаў вострую негатыўную рэакцыю польскай грамадскасці. Натуральна, у Беластоку многа беларусаў, але на вуліцах па-беларуску не размаўляюць...

**— Але, памятаю, неяк у Гарадку менавіта на вуліцы я чуў, як дзве мясцовыя кабеты гаварылі па-беларуску...**

— У Гарадку больш чым дзевяць дзесятых беларусаў, і гэта не дзіўна... Але я маю на ўвазе сітуацыю ўсёй Беласточчыны. Тутэйшы люд паціху асімілюецца з палякамі. На вялікі жаль, гэта аб'ектыўна... Польскае насельніцтва ведае, што тут жывуць нейкія беларусы, што яны праваслаўныя, і што гаворка іхняя не такая, як польская і руская... вось, бадай, і ўсё, што ім вядома. Больш і ведаць не хочуць.

**— Апроч чыста газетных спраў, Праграмная рада займаецца і выдавецкай дзейнасцю. Калі можна, больш падрабязна пра гэта...**

— Так, у мінулым годзе Праграмная рада па-польску выдала тры кніжкі С. Яновіча. Яны адрасаваны перш за ўсё польскаму чытачу. Праграмная рада выдала і зборнік фельетонаў Юркі Геніюша, сына выдатнай беларускай паэткі, які заўчасна памёр. Беларускі асяродак Беласточчыны не вельмі багаты. І тыя невялікія грошы, якія мы маем, імкнёмся выдаткоўваць менавіта на друк.

**— Рэдакцыя атрымлівае дастаткова беларускіх газет. Што яднае і што адрознівае беларускі друк Менска і Беластока?**

— Галоўнае, што нас яднае — тое, што мы пішам па-беларуску, толькі пераважная большасць менскіх выданняў карыстаецца расійска-беларускай «трасянкаю», а мы — беларуска-польскай... Ну, а калі больш сур'ёзна, «Ніва» — выданне дэмакратычнае. І ніхто з беларускіх арганізацый (у тым ліку і БГКТ) не пазбаўлены магчымасці выступіць на нашых старонках. Што, дарэчы, лідэры БГКТ робяць рэгулярна (маю на ўвазе артыкулы А. Баршчэўскага). Дадам, што, відаць, наша газета не такая нудная, як большасць менскіх афіцыйных выданняў, хоць, магчыма, тут ужо загаварыў чыста «ніўскі» патрыятызм.

**— Як ацэньваюць беластоцкія беларусы цяперашнюю палітычную і культурную сітуацыю на Беларусі?**

— Наконт палітыкі я распаўсюджвацца не буду, бо, на маю думку, не маю права даваць ацэнкі палітыкі ўрада суседняй дзяржавы. Як сталы тэлеглядач праграм Беларускага тэлебачання, усё ж скажу, што сесіі вашага Вярхоўнага Савета не надта натхняюць. Галоўны вынік дзейнасці дэпутатаў беларускага парламента — поўная адсутнасць вынікаў. Што да культуры, то падаецца, што вашы чыноўнікі, «адказныя за выкананне дзяржаўных заказаў па адраджэнні і г. д.», людзі не вельмі кампетэнтныя. Яны слаба разумеюць сучасныя культурныя працэсы, яны насаджаюць псеўдафальклор, усе гэтыя саламяныя конікі, куфэркі ды этнаграфічныя вышыванкі... Я не хачу сказаць, што гэта — блага. Але маю на ўвазе, што падобны падыход не можа стварыць нічога прынцыпова новага ў культуры...

Не думаю, што ў бліжэйшы час на Беларусі што-небудзь кардынальна зменіцца ў лепшы бок. Прынамсі, у нас у Беластоку хапае і сваіх набалелых праблем. Таму, ведаючы сітуацыю ў Менску, магу ўпэўнена сказаць, што мы разлічваем толькі на свае сілы. Спадзявацца хоць на якую-небудзь дапамогу з боку беларускіх улад проста не выпадае...

**— Поспехаў «Ніве» і дзякуй за гутарку.**

**Падрыхтаваў Ул. А.**

# Амерыканскі «Беларус»

**Нумар адкрываецца артыкулам Рагнеды Грышкевіч-Аляхновіч «Ці выхаваем патрыётаў?», высновы якога прымушаюць засумнявацца ў карыснасці і ўвогуле ў мэтазгоднасці форм і метадаў сучаснай школьнай адукацыі на Беларусі. Аўтар, у прыватнасці, адзначае: «З трывогай думаю пра нашых дзетак і моладзь. Ці стануць усе яны свядомымі грамадзянамі незалежнай Айчыны? Пераважная большасць беларускіх дзяцей вырастае ў расійскамоўнай стыхіі». Са спадарыняй Грышкевіч-Аляхновіч тут цяжка не пагадзіцца. Далей аўтар пераконаўча, на фактах даводзіць, што сучасныя падручнікі, па якіх сёння вучацца ў школах нашы дзеці, наўрад ці будуць спрыяць пашырэнню беларускасці і росту нацыянальнага патрыятызму. Так, аўтар спасылаецца на афіцыйны дакумент Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь «Пералік падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, прыгодных для выкарыстання ў школьных бібліятэчных фондах у 1993/94 навучальным годзе». У адпаведнасці з гэтым дакументам да «прыгодных» аднесены падручнікі, выдадзеныя з 1986 па 1993 год. «Што азначае першая дата, — піша Грышкевіч-Аляхновіч, — разумее кожны: пачатак знакамітай перабудовы «квітнеючага» СССР».**

**У артыкуле падкрэслена, што нават у тых выпадках, калі ўжо маюцца новыя падручнікі, якія садзейнічаюць выхаванню патрыятычных пачуццяў у дзятвы, названы «Пералік...» рэкамендуе карыстацца таксама і тымі, што, акрамя шкоды, не прынясуць нічога. Напрыклад, прапануецца карыстацца падручнікам па гісторыі Беларусі прафесара Э. Загарульскага, дзе наша гістарычная мінуўшчына груба фальсіфікуецца.**

**Матэрыял «Ці выхаваем патрыётаў?» утрымлівае шэраг іншых цікавых назіранняў і думак, вартых самай пільнай увагі супрацоўнікаў нашага Міністэрства адукацыі. Але ці прыслухаюцца там да іх?**

**Прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў прафесар Адам Мальдзіс змяшчае ў газеце «Беларус» кароткае паведамленне пра заснаванне ў Менску пры Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны новага музея «Беларусы ў свеце», з некаторымі экспанатамі якога змаглі пазнаёміцца дэлегаты і госці Першага з'езда беларусаў свету (пра гэту падзею, дарэчы, паведамляла «Наша слова»).**

**Цэлых дзве старонкі газеты прысвечаны 90-годдзю нашай знакамітай паэтэсы Наталлі Арсенневай, якая з пасляваенных гадоў жыве і плённа працуе на паэтычнай ніве ў ЗША, з'яўляецца адной з найбольш шаноўных асоб беларускай дыяспары ў Амерыцы.**

**З гістарычных матэрыялаў нумара прыцягвае ўвагу пачатак успамінаў Аляксандра Калодкі — нашага суайчынніка з Аўстраліі — «Беларуска-польскія дачыненні ў Вілейшчыне (1941—1944 гг.)», якія пасля смерці аўтара былі перададзены ў рэдакцыю «Беларуса».**

**Ёсць у газеце інфармацыя аб новых беларускіх кнігах і часопісах, якія выйшлі на Бацькаўшчыне і за яе межамі, разнастайныя навіны з палітычнага і культурнага жыцця Беларусі і беларускай эміграцыі ў розных краінах.**

**І апошняе. Дзеля справы нацыянальнага Адраджэння было б вельмі карысна, каб амерыканскі «Беларус» вольна і шырока распаўсюджваўся на Бацькаўшчыне. Але кошт гадавой падпіскі на газету (25 амерыканскіх долараў з перасылкай), безумоўна, большасці нашых грамадзян зараз не па кішэні. Таму на Беларусі можна было б рабіць перадрук усіх нумароў гэтай газеты, дадаючы кожны раз наш мясцовы матэрыял. Да слова, станоўчы прыклад такога спалучэння замежных выданняў з беларускімі матэрыяламі ўжо існуе. Маецца на ўвазе папулярны маскоўскі штотыднёвік «Аргументы и факты» і мясцовы дадатак да яго «Аргументы и факты в Беларуси».**

**Мар'ян ВІЖ.**

# Вучымся!

*Мікалай КРЫЎКО*

## *СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ*

ПАВЯРНУЦЦА (павярнуць галаву, тулава ўбок, назад) [*Пагранічнік*] *здалёк згледзеў Макарку і павярнуўся ў яго бок* (Колас), АБЯРНУЦЦА *Сёмка падняў голаў і абярнуўся ў бок воклічу* (Гартны) // (пра ход якой-н. справы, якіх-н. абставін: набыць той або іншы характар, кірунак) *Справа павярнулася так, як не чакаў сам Пракоп* (Я. Ермаловіч). *Хто мог прадбачыць, што ўсё гэта абернецца такім горкім чынам?* (Быкаў). — Незак. трыванне: **паваро́чвацца, абаро́чвацца.** — Параўнайце: 1. З м я н і ц ц а, п е р а в я р н у ц ц а.

1. ПАВЯРНУЦЬ (змяніць становішча каго-, чаго-н., зрабіўшы абарот ці паўабарот у патрэбны бок) *Падбярэцкі павярнуў галаву і прыплюшчыў падслепаватае вока, усміхнуўся* (*Пташнікаў*), АБЯРНУЦЬ [Язэп] *заснуў на санках, падцягнуўшы пад сябе правую лейцу так моцна, ажно конь галаву абярнуў направа і за ноч вялізны круг вытаптаў у снезе на выгане* (Бядуля). — Незак.: **паваро́чваць, абаро́чваць.**

2. ПАВЯРНУЦЬ (змяніць напрамак свайго руху) *Машына павярнула ўправа, на Чэрвеньскі тракт* (Мележ), ЗАВЯРНУЦЬ *Дзяўчына завярнула назад і ўпобежкі стала ўцякаць ад Рыгора* (Гартны), ЗВЯРНУЦЬ *За горадам конь сам звярнуў з шашы на ўбіты шырокі гасцінец* (Мурашка), ЗБОЧЫЦЬ *Крута павярнуўшыся, Мікола Валюжынец збочыў у завулак* (Б. Стральцоў), СКІРАВАЦЬ *Андрэй са шляху скіраваў на Белае Балота* (Чарнышэвіч) // (прымусіць каго-, што-н. рухацца ў іншым напрамку) *Дзед і так і сяк браўся за каня, усё намагаўся яго павярнуць у бок да лесу* (Лынькоў). *Змілга завярнуў каня ў адваротны бок* (Чарнышэвіч). *Звярнуў* [*мужык*] *каня ў лес, прывязаў да дрэва* (Якімовіч). *Ён пацягнуў каня за лейчыну і збочыў каня на стары, даўно няезджаны разбежак дарогі* (Ракітны). *Іван прыгнуўся, позіркам адмераў якую пайсотню крокаў да вострага каменнага абломка ў траве і скіраваў туды пісталет* (Быкаў) // (пра дарогу, раку і пад.: змяніць свой напрамак; паварот у якім-н. напрамку, у які-н. бок, зрабіць згін) *Дарога павярнула пад імшару і пайшла па чыстым сасновым бары* (Пташнікаў), *Дарога завярнула ў лес. Ідзе Якуб. Ускраіна. Палі. Вось зараз шлях у жыта проста зверне* (Зарыцкі). *Нарэшце сляды збочылі пад тоўстую густую елку, дзе амаль не было снегу* (Колас). *Сцежка скіравала ў хмызняк.* — Незак.: **паваро́чваць, заваро́чваць, зваро́чваць, збо́чваць, скіро́ўваць.**

ПАВЯРХОЎНЫ (пра веды, развражанні і пад.: які не адрозніваецца глыбінёй, грунтоўнасцю) *Такім парадкам, ужо адно знаёмства з горадам, хоць далёкае і павярхоўнае, раскрывае табе вочы* (Колас), НЕГЛЫБОКІ *А калі індывідуалізацыя неглыбокая, знешняя, гэта адымае ў вобраза яго эмацыянальную дзейнасць* (Каваленка) // (пра чалавека, які не валодае сур'ёзнымі, грунтоўнымі ведамі; які не вызначаецца сур'ёзным, удумлівым падыходам да жыцця, рэчаіснасці) *Таму ў жанчын і ў павярхоўных кавалераў аўтарытэту не мела* [*Засуліч*], *але сур'ёзным людзям падабалася* (Зарэцкі). *Неглыбокі чалавек.*

ПАГАДНЕННЕ (узаемнае рашэнне, думка) *Пагадненне было кампраміснае: лячыцца хвораму не ў палкавым тыле, а ляжаць у аддзяленні цягі сваёй батарэі* (Герцовіч), ДАМОЎЛЕНАСЦЬ *Паміж старымі была маўклівая дамоўленасць — пра справы без патрэбы нічога не пытаць* (Новікаў), ДАГАВОРАНАСЦЬ *Дзейнічаць на аснове дагаворанасці,* ЗГОДА (узаемная дамоўленасць) *Князі тым часам між сабою Праз пасланцоў перагаворы вядуць, каб справу скончыць згодай* (Бітэль), УГАВОР (узаемная дамоўленасць) *Такога ўгавору не было* (Асіпенка), УМОВА (вусная або пісьмовая згода, дамоўленасць) *Васіль, як па ўмове, з палеткаў Ужо набліжаўся сюды* (Калачынскі), ЗГАВОР (узаемная дамоўленасць, узаемнае пагадненне) *Неяк сам сабою, без згавору, без папярэдняй падрыхтоўкі пачаўся мітынг* (Галавач), ЗГАВОРВАННЕ (угавор, звычайна тайны, дамоўленасць) *У Клавы кіпела жаданне хапіць што самае першае патрапіцца пад рукі і растаўчы галовы аднаму і другому, такая душыла яе злосць і нянавісць з таго моманту, як пачула яна ў гэтым згаворванні сваё імя* (Чорны).

*Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА*

УДАКЛАДНІМ

# Знакі прыпынку пры адасобленых членах сказа

## Адасабленне ўдакладняючых членаў сказа

1. У якасці ўдакладняючых членаў сказа часцей за ўсё ўжываюцца адзіночныя акалічнасці месца, часу, меры і ступені, спосабу дзеяння, якія выражаны прыслоўямі або назоўнікамі ўскосных склонаў і размешчаны пасля другіх акалічнасцей у сказе; пры інтанацыйным і сэнсавым выдзяленні яны адасабляюцца і аддзяляюцца або выдзяляюцца пры дапамозе коскі: *Сегень пайшоў назад, дадому* (Кузьма Чорны). *Мы спалі мала, усяго дзве гадзіны* (М. Зарэцкі).

Калі ж такія акалічнасці інтанацыйна і па сэнсу не выдзяляюцца ў сказе, то яны не адасабляюцца і знакамі прыпынку не аддзяляюцца: *Недалёка за ўзгоркам віднелася вёска* (П. Галавач). *Учора вечарам я вярнуўся ў роднае сяло* (Б. Мікуліч). *Тут у лесе была цішыня* (Якуб Колас).

Найбольш часта не адасабляюцца і не аддзяляюцца знакамі прыпынку акалічнасці, выражаныя тымі ж часцінамі мовы, што і акалічнасці, якія яны ўдакладняюць, напр.: *Сёння раніцай пайшоў добры доўжджык* (В. Каваль). *Па-над Прыпяццю між лясоў, пяскоў і балот туліцца невялічкая вёсачка* (Якуб Колас). *Натоўп людзей стаіць пасярод вуліцы насупраць брыгадзіравага двара* (У. Краўчанка).

2. Калі ўдакладняючым з'яўляюцца дзве ці больш акалічнасцей, размешчаных адна за другой у сказе, то яны звычайна адасабляюцца і аддзяляюцца коскамі: *Тут, на палянцы, сярод цёмнага лесу, панавала незвычайная цішыня* (З. Бядуля). *Там, далёка, за дамамі, разляглося поле* (Якуб Колас).

Але ў залежнасці ад сэнсу апошняя з такіх акалічнасцей можа не адасабляцца, калі не мае актуалізаванага ўдакладнення і цесна звязана з выказнікам асноўнай часткі сказа: *Далей, за берагам, на ўзвышшы хваіны лапамі калышуць* (А. Астрэйка). *Там, на ўзлессі, на высокім дубе з разгалістай вяршалінай было гняздо чорных буслоў* (Т. Хадкевіч). *На загуменні вёскі Нівішчаў, на сухенькім пяску, крокаў са тры ад возера, каля альховага куста варушыцца, патрэсквае невялікае вогнішча* (Я. Брыль).

3. У тых выпадках, калі ўдакладненне падкрэслена з асаблівай сілай, адасобленыя акалічнасці аддзяляюцца або выдзяляюцца пры дапамозе працяжніка: *Унізе — у кустах — пра нешта журчаць пераліўы рэчкі* (В. Каваль). *Стрэлы чутны толькі недзе далёка — у лесе* (Я. Скрыган). *Я многа іх* [грыбоў] *набраў — паўнюткі кошык* (П. Панчанка). *Пажарышча далёка відаць — на многа вёрст* (З. Бядуля).

**Заўвага.** Пры большай паўзе і развітасці адасобленых акалічнасцей і найслабейшай сувязі іх з удакладняемым словам сустракаецца пастаноўка коскі з працяжнікам: *Песню народу я аддаў даўно,— яшчэ ў гады прадбур'я і прадвесня* (А. Звонак). *Пастаяць некалькі чалавек каля канцавой хаты ды ідуць далей,— у новы дом з белымі вокнамі...* (К. Чорны).

4. Працяжнікам аддзяляюцца дзве і больш акалічнасцей, якія выступаюць у ролі аднародных членаў і звязаны паміж сабой злучнікамі **і, ды, ці, або:** *Заўсёды — летам ці зімой — ён хадзіў у цёплай шапцы* (М. Лынькоў). *Усюды — на полі, у лесе або дома — ён не сядзеў без работы* (З. Бядуля).

5. Пры ўзмоцненым інтанацыйным і сэнсавым выдзяленні паміж удакладняемым і ўдакладняючым словамі ставіцца двукроп'е, калі гэтыя словы з'яўляюцца рознымі членамі і размешчаны ў канцы сказа, а ўдакладняемае слова мае дадатковае абагульняючае адценне: *Мікалай Сурэвіч ужо даўно скончыў рабфак і вучыўся далей: на інжынера* (Кузьма Чорны). *Яго голас чуваць быў заўсёды: ці дома, ці на двары* (М. Гарэцкі).

Але калі такія члены інтанацыйна і сэнсава не выдзяляюцца, то знакі прыпынку паміж імі ў сказе не ставяцца, напр.: *Мікалай Сурэвіч ужо даўно скончыў рабфак і вучыўся далей на інжынера. Яго голас чуваць быў заўсёды ці дома, ці на двары.*

## Хачу ведаць

***У восьмым нумары газеты быў надрукаваны допіс Ганны Супрунюк «Я добра да вас стаўлюся». На жаль, па тэхнічных прычынах з паласы выпала частка адказу рэдакцыі. Таму складваецца ўражанне, што мы проста «адпісаліся». Просім прабачэння ў нашай шаноўнай аўтаркі. Ніжэй падаём таксама і артыкул, які павінен быў пазнаёміць спадарыню Супрунюк ды іншых нашых чытачоў з меркаваннем Антона Адамовіча.***

### Выкінуць недарэчныя «адносныя» словы

Словы «адносна, адносіны» і да іх падобныя няўдала ўтвораны ў нашай мове наўзор расійскіх і зусім чужыя і дзікія ў ёй, набываючы магчымасць недарэчнага азмысьленьня, «як быццам нешта ідзе ад носу», як правільна зазначыў адзін наш мовазнаўца (В. Ластоўскі ў «Расейска-Крыўскім слоўніку».— **Рэд. «Н.с.»**). Бытаваньне іх у беларускай мове толькі засмечвае яе, тым больш, што яны лёгка могуць заменьвацца і абыходзіцца нашымі беларускімі словамі.

1. Слова «адносна», калі яно з'яўляецца ў сказе дапаможным, найлепш можа замяняцца зваротамі: *«што да»*, *«наконт»* і да г.п. (прыкл. «адносна землеўпарадкаваньня мы маем наступныя дасягненьні: — *«што да землеўпарадкаваньня, дык мы маем...»* «Чуткі адносна вайны» — *«Чуткі наконт вайны»*). Калі ж яно выражае самастойнае паняцце (процілежнае паняцьцю «абсалютна»), дык у такім разе лепш ужываць больш прыгожае слова *«узглядна»* (адсюль і «адноснасьць» — *«узгляднасьць»*, *«тэорыя ўзгляднасьці»*).

2. Некаторыя нашы газэты ўжо даўно і, трэба сказаць, дужа ўдала ўжываюць заміж «адносіны» слова *«дачыненьне»*, што трэба было б перанесьці і ў больш шырокае ўжываньне, выцесьніўшы «адносіны», якія, дарэчы, часам успрыймаюцца зусім дзіка, як «акуляры» (адзін выпадак з вясковымі дзецьмі вядомы аўтару гэтага). Адсюль і *«узаемадачыненьне»* («взаимоотношение»).

3. Адсюль і слова «адносіцца» можна перадаваць словам *«дачыняцца»*, або *«датычыць»*. У тым жа выпадку, калі гэтае слова абазначае асабістае рэагаваньне, дык яно перадаецца словам *«ставіцца»* («Як вы ставіцеся да гэтага?»).

4. Слова *«стасунак»*, якое часам ужываюць для перадачы «дачыненьня», апрача таго, што крышку чужавата сваёю формаю (суфікс «унак» чужы нашай мове), больш надаецца для перадачы расійскага «соотношение» (мяркуючы на прэфікс «с»), бо магчымае ўтварэньне ад «дачыненьне» — «судачыненьне» крыху непрыгожа.

Гэткім спосабам мы можам выкінуць з нашай мовы няўдалыя, механічна зробленыя паводле расійскіх, словаўтварэньні і пазбавіцца ад сьмяхотных азмысьленьняў слоў.

**Ант. АДАМОВІЧ.**

Артыкул перадрукоўваем з часопіса «Узвышша» (№ 1, 1929 г.) без змен, захоўваючы тагачасны правапіс. Яго аўтар — Антон Адамовіч [13(26).6.1909. Менск], літаратуразнавец, празаік. Жыве ў Нью-Йорку. («Беларускія пісьменнікі. Біябібліяграфічны слоўнік». Том. 1, Мн., 1992. С. 44—45.)

# ПЛАН

НАВУЧАЛЬНЫХ ТЭЛЕПЕРАДАЧ

НА *САКАВІК* 1994 ГОДА

| № п/п | Дата | Клас | Прадмет | Тэма |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 70. | 28.02, 01.03 | 2 | азнаямленне з навакольным светам | Веснавыя народныя святы |
| 71. | 1,2 | 5 | гісторыя Беларусі | Жыццё людзей на старажытнабеларускіх землях |
| 72. | 3,4 | 2 | музыка | Сустрэча з маршам у музычных творах |
| 73. | 9 | 11 | беларуская літаратура | „Ад зямлі, ад працы, ад жыцця" /Янка Брыль і яго творчасць/ |
| 74. | 10,11 | 10 | гісторыя Беларусі | Культура Беларусі ў канцы 20 — 30-х гг. XX ст. |
| 75. | 14,15 | 8 | гісторыя Беларусі | Культура Беларусі ў пачатку XX ст. |
| 76. | 15,16 | 11 | беларуская літаратура | „Народная трагедыя" /Васіль Быкаў і яго аповесць „Знак бяды"/ |
| 77. | 17,18 | 11 | беларуская літаратура | Андрэй Макаёнак і яго драматургія |
| 78. | 21,22 | 9 | геаграфія Беларусі | Цэнтральная Беларусь як прыродна-гаспадарчы раён |
| 79. | 22,23 | 6 | гісторыя Беларусі | Культура Беларусі ў XIУ–XУI стст. |

*Матэрыялы для слоўніка «Беларускія імёны»*

**Сымон БАРЫС**

# ЯК У НАС КЛІЧУЦЬ?

*Ды з іх кабеціна якая*
*Капэлю згубіць і гукае*
*І па імёнах называе.*
*Каруся, Палуся,*
*Цацэля, Марцэля,*
*Алена, Магдалена,*
*Зося, Антося...*

Якуб Колас.
«Новая зямля».

## (Мужчынскія імёны)

Пройдзе яшчэ два-тры месяцы і менчукі, а пасля і жыхары іншых гарадоў, будуць атрымоўваць новыя пашпарты грамадзян Рэспублікі Беларусь. З якім жа імем у новым дакуменце пойдзем мы да людзей, у свет? Якое імя запішуць нам у пашпарце? Кананічнае? Расійскае? Польскае? А ці запішуць беларускае? Алесь. Сымон. Тамаш. Якуб. Ян. Ясь. Алеся. Зося. Марыля. Мы, беларусы,— вольныя грамадзяне незалежнае дзяржавы Рэспублікі Беларусь — маем права запісаць сапраўднае ўласнае імя і сапраўднае наскае прозвішча, без усялякіх дадаткаў, абумоўленых звычаямі ці граматычнымі правіламі суседзяў.

Калі вы прачытаеце: Джон Сміт, Ота Шмідт, Жан Манэ, Ежы Кавальскі, Антанас Мацкявічус, Руслан Касых, то, напэўна, скажаце, што гэта англічанін, немец, француз, паляк, літовец, рускі.

І ў беларусаў на працягу шматвяковай гісторыі склалася свая адметная сістэма імёнаў і прозвішчаў. І хоць два апошнія стагоддзі яна выціснялася з афіцыйнага ўжытку, народныя традыцыі дажылі да сярэдзіны XX стагоддзя. Нагадаем: Язэп Драздовіч, Рыгор Шырма, Антось Міцкевіч, Ганна Новік...

У 50—60-х гадах, калі праводзілася масавая русіфікацыя беларусаў, у бюро ЗАГС сталі перакладаць нашы імёны (і нават прозвішчы) на расійскую мову. Так беларускае прозвішча *Барыс* у маім пашпарце было запісана па-расійску *Борис*, а ў брата — *Барис*. Затым пры вымаўленні быў перанесены націск у нашых прозвішчах з другога склада на першы: я стаў *Бóрис*, а брат *Бáрис*. А прозвішча майго стрыечнага брата на помніку запісалі *Борисов*. Вы заўважаеце, да чаго гэта прывяло — зусім розныя прозвішчы.

А вось яшчэ прыклад. У бацькі майго знаёмага было прозвішча Васцілоўскі, а яму ў савецкай школе ў Мсціслаўскім раёне, у в. Чарнавусы, запісалі прозвішча Усцілоўскі. Пазней, у 1937 годзе ў Смаленскім НКУС следчы паставіў Г. Усцілоўскаму гэтую змену прозвішча ў віну.

У выніку адвольных змен і падмен стала немагчымым знайсці чалавека праз бюро даведак. Гадоў дваццаць таму я прыехаў у Менск і рашыў шукаць сваяка. У кіёску «Гардаведка» называю: Занкавіч Уладак Якубавіч. Мне адказалі, што ў Менскай вобласці такога няма. І толькі пазней, я запытаў пра Владимира Яковлевича, мне знайшлі яго адрас.

У кожнага народа дзецям даюцца імёны ў роднай мове, традыцыйныя, звычныя. У нас жа імя дзіцяці вызначалі пры хрышчэнні па святцах і запісвалі кананічнае імя па-расійску або па-польску. Але бацькі называлі сваё немаўлятка пераважна памяншальна-ласкальным імем ад таго, што далі святары (Зоська, Марыська, Янік, Паўлік), або нават і зусім іншым, якое ніяк не адпавядала царкоўнаму, кананізаванаму. Такім чынам, у мінулым некаторыя беларусы мелі два імені: адно — хрысціянскае, якое мала хто ведаў, а другое — грамадзянскае, якім клікалі. У каталікоў магло быць і два-тры хрысціянскія імёны. Прыкладам, у Кастуся Каліноўскага было яшчэ імя Вінцэнт.

У беларусаў, як правіла, форма імені змянялася ў залежнасці ад узросту. Нагадаем тут думку Вацлава Ластоўскага: «І гэтак у крыўскім (беларускім) імянніку ёсць формы імён: для дзіцяці (Анцік, Петрык), падростка (Янук, Баўтрук), дзецюка (Кастусь, Юрась), мужа (Аўхім, Бутрым), старца (Міхайла, Югайла, Асташ, Грынь)». Але такая дыферэнцыроўка імён была не ўсюды. Прыкладам, у маёй роднай вёсцы Касічы Вілейскага раёна дарослых людзей называлі Пятрык, Іллюк, Франук, Вінцук, Антось, Мішка, Рыгор, Янук, Янка, Аркадзя, Соня, Альжбета, Агата, Настуля, Феня ды інш. Ні адну з такіх формаў імёнаў не запісвалі ў пашпарты, не пісалі іх і на помніках, якія ставілі на могілках. Як сказаў Ніл Гілевіч, у нас на Беларусі двойчы змяняюць імя на чужы манер: як хрысціцца і як памрэ. («Паміж былым і наступным». ЛіМ, 1989, 24 лютага).

Паводле функцыі, лінгвісты падзяляюць антрапонімы (імёны) на дзве групы: намінатыўную і экспрэсіўна-эмацыянальную. Напрыклад, Павел і Паўлік, Соф'я і Зоська. Трэба абмовіцца, што часам імёны, якія маюць экспрэсіўна-эмацыянальную функцыю, страчваюць яе і захоўваюць толькі намінатыўную, прыкладам, Янка, Пятрусь. (Некаторыя з іх сталі псеўданімамі: Вінцэсь Каратынскі, Карусь Каганец, Адэля з Устроні, Алесь Гарун, Алесь Салавей, Паўлюк Трус, Цішка Гартны). Яны сустракаюцца ў нашым фальклоры, у літаратурных творах. Напрыклад, у паэме Якуба Коласа «Новая зямля», у раздзеле «Пярэбары», чытаем:

*Тут быў Базыль, Антось Тацянін,*
*Карусь Дзівак (ён між парканін*
*Схаваў трайню, рагач, дзве восі,*
*Тайком узяўшы ад Антося),*
*Яшчэ Карусь, Паўлюк Куртаты,*
*Сцяцок, Казюк Скарабагаты*
*Ды брат Міхася і Антося —*
*Мужчын нямала набралося.*

У «Новай зямлі» знойдзем імёны «свяржэнскіх кабет»:

*Каруся, Палуся,*
*Цацэля, Марцэля,*
*Алена, Магдалена,*
*Зося, Антося,*
*Анэта, Праксэта,*
*Цётка Югася,*
*Бабка Кася!..*

Паводле Н. Чабатар, для назвы літаратурных герояў Якуб Колас выкарыстаў 394 імені: 252 мужчынскія і 142 жаночыя.

У беларускіх народных песнях можна сустрэць шмат іншых імён, вядомых нашаму народу на працягу многіх стагоддзяў. Добры прыклад таму — народная песня «Чачотачка».

Апрача імёнаў, узятых з літаратурных твораў і фальклору, для складання слоўніка былі выкарыстаны «Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» В. Ластоўскага (Коўна, 1924), Алфавітны імяннік, складзены М. В. Бірылам (Адрыўны каляндар «Родны край» на 1993 і 1994 гады), «Імёны продкаў-язычнікаў» І. Масляніцынай, М. Багадзяжа («Чырвоная змена», 1993, 23 верасня).

Імёны ў слоўніку размешчаны гнёздамі. Спачатку падаецца імя афіцыйнае (пашпартнае), паводле формы нейтральнае, якім называюць дарослага чалавека. Другое слова — яго кананічны адпаведнік на расійскай мове. Тут жа ў дужках пазначана, з якой мовы яно паходзіць, а пасля — што азначае. Далей — сіномімы таго ж імя, часам з экспрэсіўна-эмацыянальным значэннем.

## Імёны

**Абаку́м.** Аввакум (яўр.) — божая любоў. Разм. Бакум, вытв.: Абакумка, Абакумчык, Абакумачка, Авакумка, Авакумачка, **Авакумчык**. Імяніны 19.07; 15.12. Імя па бацьку — Абакумавіч, Абакумаўна.

**Абра́м.** Аўрам. Авраам (яўр.) — бацька многіх. Вытв.: Абрамка, Абрамчык, Абрамушка; Абрамцік, Абрук, Абрась, Абраш, Аўрамка, Аўрамчык, Аўрало. Імяніны 22.10. Імя па бацьку — Абрамавіч, Абрамаўна.

**Абра́м.** Авраамий (яўр.) — бацька многіх. Вытв. гл. Абрам. Імяніны 27.02; 5.06.

**Абра́м.** Аврамий (яўр.) — **вялікі бацька. Імяніны 17.02; 14.04;** 2.08; **3.09; 11.10; 11.11.**

**Аве́р.** **Аверкий (лац.) — які аддаляе, адганяе. Вытв.: Аверка, Аверкі,** Аверачка, Імяніны 8.06; 14.11. Імя па бацьку — Аверавіч, Авераўна.

**Ага́п.** Агапий (грэч.) — любоў. Разм. Гапей. Вытв.: Гапейка, Агапік. Імяніны 6.02; 28.03; 3.09; 16.11.

**Ага́п.** Агапит (грэч.) — **каханы.** Вытв.: Ага, Гапа. Імяніны 23.08; 3,11.10. Імя па бацьку Агапавіч, Агапаўна.

**Агафо́н,** Гапон. Агафон (грэч.) — добры. Вытв.: Гапонька, Гапусь, (А)Гольцік, (А)Гапук. (А)Гапусь. Гапіяш, Агапон. Імяніны 5,15.03; 10.09. Імя па бацьку — Агафонавіч. Агафонаўна.

**Агафо́н.** Агафоник (грэч.) добры пераможца. Імяніны 4.09.

**Аге́й.** Аггей (яўр.) — урачысты, святочны. Вытв.: Агейка, Агейчык. Імяніны 29.12. Імя па бацьку — Агеевіч, Агееўна.

**Ада́м,** Адась. Адам (яўр.) — чырвоны чалавек; зямля (глеба). Вытв.: Адзік, Адамка, Адамчык, Адамук, Адамуля, Адамюк, Адамусь, Адамей, Адамушка, Адаська, Адасец, Адаш, Адашка, Адзюня. Імяніны правасл. 27.01; катал. 24.12. Імя па бацьку — Адамавіч, Адасевіч, Адамаўна, Адасеўна.

*Працяг будзе.*

*Меркаванні*

# Ці патрэбны нам моўны пасрэднік?

**Чытаеш прэсу, слухаеш радыё, глядзіш тэлевізар і кожны раз, калі натыкаешся на моўную памылку, баліць душа.**

**Здавалася б, так проста сказаць: *прагнозы спраўджваюцца* замест «ажыццяўляюцца»; *на сваёй радзіме,* а не «ў сябе на радзіме»; *не ведае беларускае мовы* замест «не ведае беларускую мову»; *яна жыве ў Менску,* а не «яна пражывае ў Менску»; *хлопцы пабіліся,* а не «падраліся»; *стрэл,* а не «выстрал»; *гаварылі пра што хочаш,* а не «пра што ўгодна»; *пажаніцца з ёю,* а не «на ёй»; *горш за іншых,* а не «чым іншыя»; *чаго ты чакаеш ад гэтага круглага стала,* а не «што ты чакаеш»; *фінансаваць, пракаментаваць* замест «фінансіраваць, пракаменціраваць» і г.д.**

**Памылкі розныя: і граматычныя, і лексічныя, і фанетычныя. Непрыемна натыкацца і на такія імёны, як Паша, Сярожа. Ці ж не лепш сказаць *Паўлік, Сяргейка?* Уласныя імёны вельмі нацыянальныя, і трэба карыстацца імі. Імёны, назвы мясцін, прозвішчы няправільна перадаюцца і на замежных мовах пры перакладах мастацкай, навуковай літаратуры, у артыкулах, буклетах, рэкламах. Імёны, прозвішчы, геаграфічныя назвы часта спачатку перакладаюцца на расійскую мову, а тады на замежную: Ivan Skrigan, Grigori Shirma, Rygor Borodulin, Scorina, Maxim Goretski, Baranovichskaya.**

**У такой перадачы трацяцца асаблівасці мовы носьбіта, словы гучаць ненатуральна, немілагучна, а часта і незразумела. Ну хто можа здагадацца, што Tetka гэта Цётка (Элаіза Пашкевіч)? Апошні прыклад больш за іншыя паказвае недарэчнасць, ненавуковы прынцып перадачы нашых словаў спачатку на расійскую, а потым на замежную мову.**

**У апошні час вельмі шмат словаў і словазлучэнняў, неалагізмаў уваходзіць у нашу мову з англійскай мовы. І што ж мы бачым? Дамінуючай тэндэнцыяй становіцца выкарыстанне расійскай мовы-пасрэдніка, замест таго, каб перакладаць з мовы арыгінала.**

**І мы перадаём англійскія словы, выразы і імёны: hippi, holding, happy end, know-how, who is who, homo Sovieticus, Hemingway, Hilary — хіпі, холдзінг, хэпі энд, ноў хаў, ху іс ху (памятаеце Гарбачова?), хомосавецікус, Хэмінгуэй, Хілары. А трэба пісаць: *гіпі, голдынг, гэпі энд, ноў гаў, гі із гу, гомасаветыкус, Гэмінгуэй, Гіляры.***

**Чаму нам трэба перадаваць англійскую літару *h* літарай *г*, а не так, як перадаюць на пісьме гэтыя словы ў расійскай мове?**

**На практыцы, як вядома, выкарыстоўваюцца два шляхі перакладу іншамоўных слоў, імён: *транслітарацыя*, пры якой перадаецца графічная форма іншамоўнага слова і *транскрыпцыя*, асновай якой з'яўляецца фанетычны прынцып.**

**Першы шлях выкарыстоўваецца, калі алфавіты моваў супадаюць, а другі—гэта такі шлях, калі перакладчыкі стараюцца як мага дакладней перадаць гучанне слова сваімі моўнымі сродкамі.**

**Вернемся да вышэй прыведзеных англійскіх словаў з літарай *h*. У расійскай мове гэтую літару перадаюць літарай *х*, бо ў іх няма фрыкатыўнага працяжнага гука *г*, які ёсць у беларускай мове. Калі б яны перадавалі англійскае *h* расійскім *г*, то ён гучаў бы, як беларускі выбухны *г*, так як ён гучыць у нашай мове пры вымаўленні такіх словаў, як ганак, гонта, гуз, швагер. У беларускай жа мове мы маем вельмі падобны фрыкатыўны працяжны гук *г*. Англійскі гук *h* і беларускі *г* амаль ідэнтычныя, і нам грэх пісаць Хэмінгуэй, хіпі замест *Гэмінгуэй, гіпі* і г.д.**

**Такой тэорыі, каб замежнае слова спачатку перадаць на расійскую мову, а потым на беларускую, не існуе ў навуцы. Ці ж у нас мала русізмаў, што яшчэ патрэбная расійская мова ў якасці пасрэдніка? Не трэба пазычаць варыянта расійскага перакладу замежнага слова, а трэба перадаць на пісьме гучанне замежнага слова сваімі ўласнымі моўнымі сродкамі, тым больш тады, калі сродкамі нашай мовы гучанне чужога слова перадаецца больш дакладна.**

**Пытанне аб перадачы слоў-рэалій, прозвішчаў, геаграфічных мясцін на замежную мову і з замежнай на беларускую чакае свайго навуковага вырашэння і стварэння двухмоўных слоўнікаў.**

**Н. А. МЯСНІКОВА, выкладчыца англійскай мовы БДПА.**

# У ПОШУКАХ УЛАСНАЙ ЭТНАТОЕСНАСЦІ

*(Разважанні на фоне езуіцкага калегіуму і бранякатэра-92)*

***Мінулай восенню лёс падараваў мне цудоўнае падарожжа па Беларусі. Брэст, Воўчын, Менск, Магілёў — у некаторых месцах была не раз, іншыя пабачыла ўпершыню. Аднак надвор'е «бабінага лета» паспрыяла не толькі адпачынку, але і сур'ёзным вывадам паводле ўбачанага і адчутага. Так нарадзіліся гэтыя кароценькія нататкі.***

## 1. Паміж этымалогіяй і семантыкай

Я хутка перасягну «чвэрцьстагоднюю» мяжу — надышоў час даць больш рашучае вызначэнне сваёму менталітэту. Ні школа, ані інстытут не далі адказу на пытанне, што гэта значыць: я беларуска. Па семантысы, лічу: я належу да беларускага народа, этымалагічна — амаль таксама, але з акцэнтам на паходжанне слоў «Беларусь», «беларуска», «беларус».

У Пінску гляджу на воды Прыпяці і думаю аб тым, адкуль яна прыйшла, куды адыдзе... Нас стварыла мінулае, але якое — усходняе ці заходняе? Ці магчыма, што мы ўзніклі без гэтага ўплыву? Адказаць станоўча было б нясціпла. У водах Прыпяці адбіваецца езуіцкі калегіум і бранякатэр-92. Гэта танны парадокс, але ж наша гісторыя. Я не забываю пытанняў маіх заходнеславянскіх сяброў: чаму на вуліцы Дняпроўскай Флатыліі ўсе размаўляюць па-расейску?

## 2. Уз'яднанне

У нашых музеях у адносінах да беларускае гісторыі ўжываюць розныя словы. Але найбольш частыя з іх: «акупанты» і «уз'яднанне». Дзвесце гадоў Рэчы Паспалітай — акупацыя, а больш за 200 гадоў у складзе Расійскай Імперыі — уз'яднанне? Мой Пінск у чарговы раз «уз'яднаўся» з Расіяй увосенi ў 1939 годзе. Да канца не ведаю з кім: з Расійскай Імперыяй? — Савецкага Саюза дагэтуль тут не існавала, а БССР была яго часткай.

## 3. Быў Панятоўскі, быў Сувораў...

Па-мойму, ён не быў вінен у тым, што нарадзіўся ў Воўчыне, як, зрэшты, і ў тым, што яго там пахавалі. Не ведаю, якія асабістыя рахункі зводзіла з ім настаўніца-камсамолка, якая разбіла урну з ягонымі астанкамі (магчыма, так праходзіў урок гісторыі ў вучняў, якія пры гэтым прысутнічалі).

Ад Троіцкага касцёла ў Воўчыне, дзе быў пахаваны Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, засталіся вартыя жалю рэшткі (нават і даху ўжо няма. На энцыклапедычным здымку ён яшчэ прысутнічае). Затое аб'ява, абсалютна новая, напісаная, дарэчы, па-расійску, гаворыць: «Вход в здание запрещен в связи с аварийностью здания».

На новым будынку музея імя Суворава ў Кобрыне гэткай таблічкі няма. Па-мойму, Сувораў таксама не вінен у тым, што не нарадзіўся ў Кобрыне. Мая еўрапейская душа падказвае мне, што да апошняга польскага караля не варта ставіцца горш, чым да расійскага фельдмаршала, які паліў (у стратэгічных, вядома ж, мэтах) беларускія вёскі.

## 4. Няз'едзены абед

У Магілёве, у які я закахалася, мне чамусьці заўсёды хацелася паабедаць у 16 гадзін. Тут, а таксама ў Брэсце, Віцебску, Пінску гэта папросту аказалася немагчыма. У 16 гадзін можна паесці ва ўсім свеце, акрамя маёй роднай Беларусі. Так, у магілёўскім рэстаране «Габрава» нейкая сумная жанчына на пытанне пра абед адказала: «Вы павінны былі адабедаць да 16 гадзін, а зараз рэстаран працуе для сябе»(?) Відаць, гэта адказ у стылі знакамітых габраўскіх жартаў. Але ўвасобілі такое ў жыццё нашы чыноўнікі. Лічыцца, што беларусы — людзі цвярозага розуму. Але чаму тады ў нас такія чыноўнікі?

## 5. Да пана Вальтэра

У Магілёўскім каталіцкім касцёле ўсе надпісы — па-беларуску. Моляцца людзі на дрэннай польскай. Між сабой гавораць на трасянцы. Бог у гэтым касцёле інтэрнацыянальны — трошкі беларускі, крышку польскі, а рэшткаю расійскі. Можа, ад гэтага падзелу Бога на Беларусі зусім мала... Таму час ад часу ўспамінаю Вальтэра: «Калі б Бога не было, трэба было б яго выдумаць». Але я хацела б падправіць (ці дадаць: Вальтэра, вядома ж, не правіць) да таго па-свойму: «Калі на Беларусі Бога мала, трэба зрабіць яго больш ментальным, ці нашым». У сувязі з гэтым пытанне: калі ж на Беларусі набажэнствы ў царквах будуць правіцца для беларусаў?

## 6. Да Еўропы

Еўрапейка я ці не? Адно ведаю дакладна — я ўжо не «савецкая». А можа, я ніколі і не належала да савецкага народа? Што гэта значыць — ісці да Еўропы (ці быць бліжэй да Еўропы)? Францішак Скарына вучыўся ў Падуанскім універсітэце ці толькі таму, што ў Маскве яшчэ не было універсітэта Ламаносава?

Быць бліжэй да Еўропы — не значыць апантана купляць цукерачна запакаваныя прадукты з еўрапейскіх барахолак. Магчыма, шлях да Еўропы ляжыць цераз спагаду сваім суседзям ці прабачэнні, калі наступілі камусьці на нагу ў аўтобусе?

## 7. Мемарыяльныя таблічкі

Замест уступу: надпіс на двух дамах на Савецкай (?!) плошчы ў Магілёве складаецца выразным паўколам: «Слава борцам за Советскую власть».

На большасці ўстаноў Беларусі шыльды яшчэ старыя. Магчыма, на новыя папросту няма грошай, асабліва, калі трэба перапісваць па-беларуску. Не схаваю, што з большай ахвотай заплачу нават штраф міліцыянеру з «Пагоняй» на форме, ніж з сярпом і молатам. Мала сувязі з сапраўднай гісторыяй у мемарыяльных таблічках з вызначэннямі: «капиталистическо-помещичьи войска», «белопольские оккупанты». Князь Канстанцін Астрожскі пад Оршай быў белым? А ці ведае хтосьці, колькі беларусаў змагалася на баку палякаў супраць Саветаў?

Выхоўваць людзей можна толькі праўдай — гэта адзін з прынцыпаў хрысціянскае веры.

## 8. І яшчэ пра тоеснасць

Неяк падумала: а ці займаецца хтосьці на Беларусі пытаннем беларускай тоеснасці навукова? Я не знайшла ані кнігі, ані артыкулаў менавіта па гэтай праблеме. Ёсць геапалітыка, проста палітыка, а тоеснасці няма, нават азначэнне не ўжываецца.

Сябры падказалі, што нейкі амерыканскі навуковец займаўся тым, што мяне зацікавіла. Так у мае рукі трапіла праца Сцівена Гацье «Беларусы: тоеснасць грамадства, а таксама асіміляцыя, 1897—1970 гады», надрукаваная ў часопісе «*Soviet Studies*» Мічыганскага універсітэта (№ 29).

Сумна: за акіянам займаюцца нашай тоеснасцю, а мы ўсё разважаем, што б гэта магло значыць увогуле.

Надзея ПІНСКАЯ.

***ВЕЧАРЫНЫ***

# Прысвечана Антону ЛУЦКЕВІЧУ

**У Жлобіне ў актавай зале сярэдняй школы № 1 прайшла вечарына памяці выдатнага патрыёта Беларусі Антона Луцкевіча (1884—1946?) з нагоды 110-годдзя з дня нараджэння. Мерапрыемства было арганізавана агульнымі намаганнямі мясцовых арганізацый ТБМ імя Ф. Скарыны і Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. У вечарыне ўдзельнічалі настаўнікі і вучні старэйшых класаў некалькіх школ горада. Перад прысутнымі выступілі і адказалі на шматлікія пытанні госці з Менску: загадчык аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН Рэспублікі Беларусь Міхась Чарняўскі, старшыня Беларускага згуртавання вайскоўцаў Мікола Статкевіч і кіраўнік спраў Цэнтральнай Рады БСДГ Мікола Кійка. З уступным словам выступіў старшыня Жлобінскай рады ТБМ імя Ф. Скарыны Мікола Шуканаў.**

**Тыя, хто прыйшоў на вечар, мелі магчымасць набыць па даступнай цане літаратуру па гісторыі Беларусі, беларускі адрыўны каляндар «Родны край» на 1994 год. Школьнікі атрымалі гэту літаратуру бясплатна.**

**Наш карэспандэнт.**

***Паміж намі, чытачамі***

# УСЁ МОГУЦЬ МАЙСТРЫ

Пачаў чытаць у «ЛіМе» (№ 5) старонкі дзённіка Вячаслава Адамчыка і на табе, яго словамі кажучы, «заманууся напісаць сам»,— ён гэтак, чытаючы Бальзака (няўжо па-французску?), а я яго, Адамчыка. Што ні кажыце, а і ў наш час, калі, здаецца, адна прага і выперла — мітусліва зазіраць у шопы (во слоўца недзе падабраліі!) ды лізаць снікерсы, па-майстэрску зробленая спавядальная проза добрага пісьменніка ўсё ж здольная абуджаць у нас светлыя чалавечыя пачуцці, успамінаць пра ўласную душу жывую — дзеля чаго мы на гэты свет пушчаны і адкуль прыйшлі. Вось раптам узгадаў пра сваё прозвішча, а таму ўзяўся гартаць слоўнікі, першнаперш самы паважаны — Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Ды аказалася, яго укладальнікі, відаць, знаходзіліся цалкам пад уплывам адпаведнага расійскага — дружна праігнараваўшы «аз» і «букі», абодва бакі адразу пачалі чамусьці толькі з «буквы» — графічнага знака для абазначэння гукаў, куды ж без гэтага? «Буквар» ёсць, «букініст» і падобныя, а што за корань у гэтых слоў — ні гуку. Тады ўзяўся за Расійскі энцыклапедычны слоўнік. Тут мяне чакала засмучэнне: «бука» такі згадана, але якая! Вось: «Б.1. фантастычная істота, якой палохаюць дзяцей; 2. змрочны чалавек». Дашукаўся, называецца, на сваю галаву. Вырашыў: у такім разе вазьму сабе вясёленькі псеўданім. Скажам: Светлагораў. Праўда, гэта была мода савецкага часу, а зараз бы такое слоўца, каб усліпмалася імпартна, ды напісаць лацінаю, а не кірыліцай. Тут, дзякаваць Богу, успомніў: беларускія ж слоўнікі і да савецкай эпохі выдаваліся. Бяру «Расійска-крыўскі (Беларускі)» В. Ластоўскага. Усцешыла, як перакладаецца «буквар»,— «букар», але больш нічога. Затое Слоўнік беларускай мовы І. Насовіча аказаўся значна багацейшым на гэты конт. Адшукаў урэшце і сваё: «Бука — указка, якую ўжываюць пры навучанні грамаце». І прыклад ужывання: «Вазьмі ў руку буку». Згадваецца і ў якасці «дзіцячага» слоўца, але без «фантастычнай» афарбоўкі, а хутчэй для абазначэння неапазнанай, крыху таму загадкавай істоты. Затым тое-сёе знайшоў у тэкстах Скарыны, але ж, мусіць, пара ўжо вярнуцца да галоўнага.

Дык я пра тое, што адно чытае мой унук у «Бярозцы», якую Вячаслаў Адамчык рэдагуе, а іншае — я ў «ЛіМе». Шмат якія фразы ды формы напісання слоў у «Бярозцы» прыводзяць мяне, прызнаюся, у адчай — быццам чытаю хоць і знаёмае, але замежнае, а сам гэтак пісаць ніколі і не змагу, бо і навучыцца не ведаю дзе, хіба што па тэкстах нашых маладых авангардыстаў? А вось чытаю ўласную (і што асабліва ў дадзеным выпадку важна — спавядальную, нават дзённікавую) прозу таленавітага пісьменніка — душа ціха радуецца. Не раздражняюць нават варварызмы, у тым ліку русізмы. Яны неяк натуральна ўплецены ў сказ, у фразу, напаўняюць падтэкстам. Падумаеш толькі іншым разам: якім чынам некаторыя такія слоўцы сталіся «сваімі» ў літаратара родам не з усходняга, а менавіта заходняга рыгёна Беларусі, адкуль прыйшло ці не найболей той нашай адметнай творчай інтэлігенцыі, якую асабліва заўзята кампартыйныя ідэолагі кляймілі «нацыяналістамі»? Вось чытаю: «*салдаты* (у «Бярозцы» было б — «жаўнеры», ці *вояк*; ды польскага варыянту, чым да германскага)... *капаюць лапатамі* ( у «Б» папраўілі б, відаць,— «рыдлёўкамі» і, хутчэй,— «рыюць»); «намаляваць жыццё ў *схватцы*; «касцёл з... *чарапічным* дахам»;«*ачуціўся* ў горадзе»; «гракі на фантанах перламутравых дрэў»(адно слоўца французскага паходжання, другое — нямецкага, а ў дадатак В. Ластоўскі лічыў беларускай форму не «перламутр», а «пэрлавіца»); «стаіць на задніх лапках, з угодлівай лісліваcцю вычэкваючы, калі ж яму... дадуць *ленту* і ключык» ...Можна прыгадаць яшчэ тое-сёе, але ж не дзеля таго, каб паківаць стылістам, рэдактару ці самому аўтару, а толькі сказаць: працэс асіміляванія іншамоўнай лексікі беларусамі працягваецца не толькі на побытавым узроўні. А ці натуральна, ці гожа падаса чытачу варварызм,будзе, як заўсёды, залежаць ад таленту і культурнага ўзроўню таго, хто і як яго ўжыве.

А. З. БУКА.

